Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 26 лютага 1999 г. № 22 (553) Кошт свабодны

***Учора ў Мінску група амонаўцаў арыштавала амаль увесь склад Цэнтральнай выбарчай камісіі на чале з Віктарам Ганчаром.***

## Цэнтрвыбаркам арыштаваны



Цэнтрвыбаркам сабраўся на рабочае паседжанне ў кафэ «Калізей», што знаходзіцца ў сталічным Доме афіцэраў. Паседжанне было прысвечанае аднаму пытанню: зацверджанню тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У склад гэтых камісіяў уваходзяць каля 2.000 чалавек.

Падчас паседжання ў «Калізеі» раптам з'явіліся больш за 20 амонаўцаў, якія сталі за спінамі членаў Цэнтрвыбаркама і журналістаў. У гэткіх надзвычайных умовах паседжанне, тым не менш, працягвалася.

Першае, што зрабілі амонаўцы — з прымяненнем сілы выдварылі з памяшкання прадстаўнікоў прэсы. Пасля тое ж самае было зробленае і з членамі Цэнтрвыбаркама, паколькі тыя адмовіліся пайсці за амонаўцамі добраахвотна. В.Ганчар папярэдзіў амонаўцаў, што яны ўчыняюць грубае парушэнне заканадаўства, за што і будуць несці адказнасць.

У момант, калі ўдзельнікаў паседжання саджалі ў аўтобус, прадстаўнік улады ў цывільным настойліва спрабаваў закрыць рукою аб'ектыў тэлекамеры апаратара ОРТ Дзмітрыя Наважылава. Істотна перашкодзіць здымманню, аднак, ён не здолеў — хаця палкоўнік, які кіраваў арыштам, лямантаваў: «Хто там здымае? Прыбярыце гэтага, з камерай!»

Аўтобус (дзяржнумар 58-39 МИН), у які ўбіліся і амонаўцы, звёз членаў Цэнтрвыбаркама ў гарадскі аддзел міліцыі. Па словах В.Ганчара, ніякіх тлумачэнняў ні пры затрыманні, ні ў аддзеле арыштаваным не далі (акрамя таго, што затрыманне было вусна ўзгодненае з гарпракуратураю), і ўвогуле *«міліцыянты знаходзяцца ў паніцы, бо не ведаюць, што рабіць»*. Падрабязнасці мы паведамім у наступным нумары.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Пасла памянялі

**Скончыў сваю работу ў Беларусі амбасадар Расійскай Федэрацыі Валерый Лашчынін, які займаў гэтую пасаду больш двух гадоў.**

У сераду ад'язджаючага пасла прыняў Аляксандр Лукашэнка, які выказаў шкадаванне, што Мінск пакідае «вялікі сябра Беларусі, вельмі адданы прыхільнік беларуска-расійскага саюза». Як нам паведамілі ў расійскай амбасадзе, былы пасол пераведзены на працу ў дыпламатычнае прадстаўніцтва Расіі ў Вене. А ягонае месца ў Мінску зойме Вячаслаў Далгоў, які раней узначальваў у міністэрстве замежных справаў Расіі дэпартамент краінаў СНД. Беларускія ўлады ўжо далі агрэман (згоду) на прызначэнне сп.Далгова амбасадарам. Ён стане трэцім па ліку шэфам расійскага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Мінску, якое было адкрыта ў 1992 годзе.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**




# Лукашэнка хоча вярнуць ядзерную зброю

## *и перагледзець сусветны парадак*



У сераду прэзідэнт Лукашэнка прыняў паслоў арабскіх краінаў. Гэтай імпрэзе, якая рыхтавалася некалькі месяцаў, беларускія ўлады надавалі вялікае значэнне. Пасля скандалаў з Захадам і вялай інтэграцыі з беднай Расіяй прэзідэнт Лукашэнка вырашыў шукаць «новых сяброў». Праўда, восем арабскіх краінаў (усяго іх налічваецца 22) не накіравалі сваіх паслоў да Рыгоравіча. Тым не менш гэтая акалічнасць не пашкодзіла прэзідэнту распавесці пра свае інтэграцыйныя планы.

У інтэрв'ю іранскім журналістам «бацька» заявіў пра неабходнасць стварэння военна-палітычнага саюза Беларусі, Расіі, Кітая, Індыі і Ірана. На думку прэзідэнта, гэтае «ўсходняе ядро» павінна стаць супрацьвагай *NATO* замест Савецкага Саюза. Гэтую ідэю Рыгоравіч развіў падчас сустрэчы з арабскімі пасламі. Па ягоных словах, у супрацьвагу ЗША патрэбна ствараць новыя пункты апоры на постсавецкай прасторы, з цэнтрам у Расіі, а таксама ў Азіяцка-Ціхаакіянскім рэгіёне. Цэнтр у Расіі выбраны наздарма, бо Лукашэнка марыць стаць гаспадаром Крамля. Калі ЗША і краіны Захаду будуць дрэнна сябе паводзіць, то, як кажа Рыгоравіч, трэба будзе *«сур'ёзным чынам перагледзець увесь сусветны парадак»*.

Гэтым палітычным мэтам была прысвечаная эканамічная праграма знаходжання арабскіх паслоў у Мінску. Яны наведалі прадпрыемствы, якія могуць выконваць ваенныя заказы, сярод іх завод колавых цягачоў і оптыка-механічнае аб'яднанне. Па словах першага намесніка міністра замежных справаў Сяргея Мартынава, *«Беларусь з'яўляецца пастаўшчыкам узбраенняў на сусветны рынак, і кантакты на гэтую тэму будуць працягвацца з арабскім светам»*. Калі раней гэтая прадукцыя ішла пад маркай «Зроблена ў СССР», то цяпер будуць пісаць «Зроблена ў Беларусі».

Туга па мінулым моцна ахапіла прэзідэнта Лукашэнку, які ўчора прыбыў у Маскву на саміт кіраўнікоў краін мытнага саюза. У інтэрв'ю «Интерфаксу» Лукашэнка заявіў, што «лічыў і лічыць вялікай памылкай» вывад расійскіх ядзерных узбраенняў з тэрыторыі нашай краіны. Па ягоных словах, у цяперашняй сітуацыі ядзерная зброя можа быць вернута на тэрыторыю Беларусі, бо «нам патрэбна думаць пра бяспеку агульнай айчыны».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Беларусь засыпала снегам

Як паведамілі ў Белгідрамецэнтры, ад снегападаў, якія апошнім часам прайшлі па Беларусі, найбольш пацярпелі Віцебская, Мінская, Магілёўская і Гомельская вобласці.

У раёне Полацка выпала месячная норма ападкаў, а ў Гомельскай вобласці — палова гэтай нормы. Снежнае покрыва на Віцебшчыне дасягнула 50 см, у іншых абласцях сумёты вырaслі да 40 см. У пасёлку Нарач таўшчыня снегу дасягнула рэкордных 54 см, а ў вёсцы Лынтупы Пастаўскага раёна — 51. Снегапад прайшоў разам з завеяй, праўда, сіла ветру не ўяўляла асаблівай небяспекі, усяго 15—18 метраў у секунду. У міністэрстве па надзвычайных сітуацыях ужо цяпер распачалі падрыхтоўку да паводкі, ствараюцца запасы харчавання, ідзе падрыхтоўка выратавальных сродкаў.

Калі рыхтаваўся гэты нумар газеты, камунальныя службы з дапамогай салдатаў яшчэ расчышчалі вуліцы ў Мінску. Таксама разбіраліся снежныя заносы на дарогах у Віцебскай вобласці, дзе рух транспарту ў накірунку Полацка і Смаленска давялося спыніць. Ва ўпраўленні чыгункі нам паведамілі, што перабояў з рухам цягнікоў не было. Усю ноч чыгуначнае палатно ўручную рыдлёўкамі расчышчалі ад снегу 1.900 чалавек. З-за снегападу павялічылася колькасць дарожна-транспартных здарэнняў, ёсць загінуўшыя і параненыя. У шэрагу раёнаў краіны была адключана электраэнергія. У вёсцы Акунёва Шклоўскага раёна абвалілася адна з калгасных пабудоваў, а ў вёсцы Красуліна Магілёўскай вобласці не вытрымаў дах на цялятніку.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Яшчэ адзін палац для прэзідэнта

**Заўтра а 13-й гадзіне ва ўрачыстай атмасферы ў Мінску на вуліцы Прытыцкага адчыніцца Палац лядовага спорту. Палац разлічаны на 1.800 месцаў.**

Як нам паведамілі ва ўпраўленні фізкультуры і спорту Мінскага гарвыканкама, цырымонія пачнецца з матча паміж камандамі хакейных ветэранаў з Омска і Яраслаўля, якія былі адмыслова запрошаныя на «свята беларускага хакея».

Потым адбудзецца ўласна адкрыццё палаца. Аляксандр Лукашэнка, які не пашкадаваў свайго часу для такой падзеі, атрымае сімвалічны ключ ад палаца з рук будаўнікоў і перадасць яго «гаспадарам» будынка — юным хакеістам і фігурыстам. Потым пачнецца канцэрт з удзелам ансамбля бальных танцаў «Піруэт», аркестра «Няміга», Маладзёжнага тэатра эстрады, пройдуць паказальныя выступленні юных фігурыстаў з школы алімпійскага рэзерву.

Завершыцца свята яшчэ адным матчам паміж камандамі хакейных ветэранаў: «Зоркі Расіі» будуць гуляць са сваімі беларускімі калегамі. Чакаецца, што ў якасці ветэрана беларускага хакея на лёд выйдзе і сам Аляксандр Рыгоравіч. Нагадаем дарэчы, што Музей хакейнай славы ў Таронта (Канада) аб'явіў Лукашэнку самым хакеялюбным прэзідэнтам свету і атрымаў ад яго ў падарунак хакейную форму пад нумарам «1» і з надпісам на спіне «Lukashenko».

Абодва матчы будуць доўжыцца толькі два таймы. Пасля матча з расіянамі беларускі прэзідэнт нібыта атрымае ад расійскіх «зорак» залаты хакейны шлем — за спрыянне развіццю гэтага віду спорту.

*(Працяг тэмы — на стар.2)*

## Фуршэт для начальства за кошт настаўнікаў

**Кіраўніцтва Ганцавіцкага РАНА вырашыла за кошт мясцовых настаўнікаў і выхавацеляў арганізаваць прыём для камісіі з міністэрства адукацыі, якая на наступным тыдні будзе інспектаваць школы і дзіцячыя садкі раёна.**

Дзеля таго, каб на стале ў інспектараў не бракавала прысмакаў і напояў, педагогі з усяго раёна павінны здаць ад 100 да 500 тысяч рублёў. І гэта пры тым, што сярэдні месячны заробак у правінцыйных настаўнікаў не перавышае 3 мільёны рублёў. Натуральна, што многія настаўнікі і выхавацелі былі абураныя нахабнасцю патрабаванняў свайго начальства і адмовіліся аплачваць «свята жывата» для сталічных чыноўнікаў з уласнай кішэні. Настаўнікі і так ледзь зводзяць канцы з канцамі, працуючы за такую мізэрную зарплату, і таму настойлівыя просьбы з РАНА здаць грошы яны проста праігнаравалі.

Тады раённыя чыноўнікі ад адукацыі перайшлі ад угавораў да пагрозаў і сталі намякаць сваім падначаленым, што тыя будуць мець вялікія непрыемнасці, калі сталічная камісія застанецца незадаволенай прыёмам у іхнім раёне. Пагрозы аказаліся больш дзейснымі, і працоўныя калектывы некаторых школаў і садкоў усё ж здалі грошы, каб ад іх толькі адчапіліся.

Найбольш прынцыповыя з настаўнікаў усё ж не сталі плаціць і звярнуліся ў Ганцавіцкае аддзяленне Беларускага Хельсінкскага камітэта з просьбай абараніць іх ад паборaў начальства. Кіраўнік мясцовай філіі БХК Мікола Занька паведаміў аб фактах вымагальніцтва намесніку старшыні Ганцавіцкага райвыканкама Міхаілу Пішчу і раённаму пракурору Сяргею Тураўцу. Тыя абяцалі разабрацца, але запатрабавалі, каб пакрыўджаныя начальствам настаўнікі самі прыйшлі да іх і далі афіцыйныя паказанні. Па словах М.Занькі, педагогі вельмі запалоханыя і баяцца страціць работу, таму да раённых вертыкальшчыкаў яны не пойдуць. На думку прадстаўнікоў Ганцавіцкай філіі БХК, людзі ў правінцыі ўжо даўно не вераць у справядлівасць мясцовых уладаў, і з сваімі праблемамі ім фактычна няма да каго звярнуцца.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Хакейная ліхаманка

(Працяг з 1-й паласы)

Напярэдадні адкрыцця Палаца лядовага спорту мы вырашылі распавесці вам пра некаторыя найбольш бачныя праявы хакейнай ліхаманкі, якая з кожным годам усё больш авалодвае беларускімі чыноўнікамі — па меры таго, як яна авалодвае прэзідэнтам.

Як вы, напэўна, памятаеце, у лютым мінулага года на зімовай Алімпіядзе ў Нагана беларускія хакеісты пачалі свой выступ з некалькіх перамогаў. Гэтыя перамогі надалі столькі энтузіязму Аляксандру Лукашэнку, што ён нечакана ва ўсіх сэнсах слова паляцеў у Нагана — папрысутнічаць пры тым, як беларускім хакеістам чапляюць на шыі залатыя медалі. І хоць таго моманту ён так і не дачакаўся, але вярнуўся на Радзіму з цвёрдым перакананнем: Беларусь — краіна хакея і хакеістаў.

Ужо ўвесну мінулага года ў Беларусі распачалося нечуванае дагэтуль па сваёй маштабнасці будаўніцтва спартыўных аб'ектаў. Асноўны прыярытэт, вядома, надаваўся хакею і ўвогуле «зімовым» відам спорту.

Самым авантурным праектам гэтай серыі можна, відаць, назваць ідэю перарабіць стадыён Акадэміі фізічнага выхавання, які знаходзіцца побач з Батанічным садам, у крытую лядовую бегавую дарожку з трыбунамі на пяць тысяч чалавек, зрабіць пад'езды для аўтатранспарту да аб'екта і г.д. Для гэтага нават планавалася «адхапіць» кавалачак тэрыторыі Батанічнага сада. Дзякуй Богу, пакуль гэты праект так і застаўся на паперы.

Сярод іншых планаў спартыўных ведамстваў — рэканструкцыя Палаца спорту ў Мінску, накрыццё аднапралётным дахам адкрытай хакейнай пляцоўкі побач з Палацам спорту (фактычна — ператварэнне пляцоўкі ў будынак) і некаторыя іншыя.

Палацы хакея мусілі вырасці ва ўсіх абласных гарадах Беларусі: Брэсце, Віцебску, Гомелі, Магілёве і, натуральна, у Мінску. У Гродне планавалася рэканструяваць існуючы валейбольны спорткомплекс «Вікторыя», каб у ім можна было гуляць і ў хакей.

Але тут запратэставалі мясцовыя ўлады гэтых гарадоў: калі хочаце будаваць спартыўны аб'ект — будуйце, але каб ён быў шматпрофільны: і для хакея, і для валейбола з баскетболам. «Цэнтр» падумаў і пагадзіўся. І цяпер будаўніцтва там ідзе высокімі тэмпамі.

Як нам стала вядома, курыруе будоўлю ўсіх пералічаных спартыўных аб'ектаў першы намеснік міністра спорту і турызму Сяргей Цыцэрын — чалавек, вельмі блізкі да прэзідэнта (вядома, абы-каму такую працу даваць нельга!). Амаль кожны тыдзень яны ўдваіх гуляюць у тэніс. Можа, таму Сяргей Цыцэрын такі заняты — за тры месяцы ён не знайшоў часу, каб сустрэцца з карэспандэнтам НАВІНАЎ і даць інфармацыю з першых рук аб усіх гэтых «будоўлях стагоддзя».

Што на гэты конт думае прэзідэнт, мы ўжо ведаем. У мінулым снежні на цырымоніі адкрыцця пасля рэканструкцыі крытага катка дзіцяча-юнацкага цэнтра алімпійскага рэзерву «Юнацтва», што знаходзіцца ў парку Горкага ў Мінску, Аляксандр Рыгоравіч заявіў: *«Будаўніцтва новых спартыўных аб'ектаў... з'яўляецца галоўным накірункам сацыяльна-эканамічнага жыцця нашай краіны»*. Па яго ных словах, дзяржава і надалей будзе ўсяляк садзейнічаць імкненню людзей весці здаровы лад жыцця.

*«Пабудаваныя за народныя грошы стадыёны, палацы спорту, спартыўныя цэнтры, залы і трэніровачныя базы вяртаюцца народу. Што да зімніх відаў спорту, то мы паставілі задачу на працягу двух гадоў у кожным абласным цэнтры мець па адным-два крытыя каткі са штучным лёдам, зручныя і даступныя для кожнага жыхара нашай краіны»*, — сказаў тады А.Лукашэнка. Ён заявіў, што, нягледзячы на крытыку, будаўніцтва «гэтых цудоўных палацаў» будзе працягвацца на працягу ягонага прэзідэнцкага тэрміну — каб *«маладыя людзі, дзеці былі тут, а не бадзяліся па вуліцах»*.

Як бачым, на думку прэзідэнта, у Беларусі няма іншых праблемаў — палітычных, эканамічных, сацыяльных... Усе ў нас жывуць доўга і шчасліва — толькі ў хакей няма дзе згуляць. Вось пабудуем яшчэ дзесятак палацаў — і зажывем!



*Палац лядовага спорту — яшчэ адзін сімптом хакейнай ліхаманкі.*

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

***Узімку вёска запавольвае жыццё. Ні ў каго няма грошай, пакуль зноў не запрацуе нацбанкаўскі друкарскі варштат. Цяпер калгасы краіны вінныя дзяржаве 19 трыльёнаў рублёў, АПК агулам — 30 трлн. У калгасах Гродзеншчыны сярэдні заробак летась склаў усяго 3 мільёны, што на 15 працэнтаў ніжэй нават за штучна вызначаны чыноўнікамі памер мінімальнага спажывецкага кошыка. Прычым грошы вяскоўцам выплачваюць нерэгулярна: няма чым.***

# Вёска гібее моўчкі

Усе ўсім павінны адначасова. Напрыклад, у «сельгасхіміях» без вялікай надзеі чакаюць грошы ад калгасаў, дзе выконвалі работы, бо гэтыя гаспадаркі — слабыя (моцныя спраўляюцца самі). У «аграпрамтэхніках» марудна рамантуюць камбайны і трактары, бо няма грошай, каб купіць запчасткі — калгасы не заплацілі. І так паўсюдна.

У пэўным сэнсе гэта — сізіфава праца. І вось чаму. Памятаеце, галава дзяржавы аглядае падчас працы новыя айчынныя камбайны, хваліць: мы ўсё можам! Адзін эксперыментальны камбайн праходзіць выпрабаванні ў Гродзенскім раёне. І ўсе толькі хваляць. А старшыня аблвыканкама потым гаворыць старшыням калгасаў праўду-матку: «Будзем за валюту купляць нямецкія «Ягуары», а «Гомсельмаш» — паставім пад плот». Адзін «Ягуар», па ягоных словах, замяняе цэлых 15 гомельскіх камбайнаў! Уяўляеце, гаворыць ён, можна зэканоміць 15 чалавек, 15 зарплатаў! Хоць на самой справе атрымліваецца 14. Але гэта няважна, бо сапраўды на вёсцы кожная пара рук літаральна на вагу золата, асабліва на сяўбе і жніве.

Бедна жыве гродзенская вёска з сярэднім заробкам у 10 долараў. Можа таму і крадуць калгаснікі ўсё больш. У крымінальнай хроніцы ўвесь час трапляюцца паведамленні: скрадзены з фермы або з прыватнай гаспадаркі парсюк або цяля. Асабліва частыя цяпер крадзяжы ў вясковых крамах, прычым злодзеі робяцца непераборлівымі — бяруць часцей гарэлку ды закуску. Або ўзяць электрычнасць. З гэтым цэлая бяда. У райцэнтрах ствараюцца «рэйдавыя брыгады па барацьбе з крадзяжамі электраэнергіі». У даволі невялікім па насельніцтве Воранаўскім раёне, напрыклад, летась было выпісана 304 штрафы на 1,6 млрд. рублёў, а за сёлетні студзень — ужо на 455 мільярдаў. Незаконна падключаюцца да электрасетак збольшага менавіта вяскоўцы.

Увогуле, жыццё адчувальна пагаршаецца. Возьмем хаця б Навагрудскі раён. Сярэдні заробак там летась склаў менш за 3,5 мільёны. Затое віна і гарэлкі за год зварылі больш, чым летась, на 50 працэнтаў — піце, хлопцы! Але менш вырабілі сыроў, меней спяклі хлеба. Зрэшты, едакоў таксама паменела. Нарадзілася людзей у 2,6 раза менш, чым памерла. Дзіва што, калі больш за палову новых шлюбаў распалася. Атрымліваецца, што бяднее Навагрудчына і паступова, на жаль, пачынае вымiраць.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Ці дасць рады Рада

**Сталі вядомыя імёны прадстаўнікоў дэмакратычных партыяў і арганізацыяў у Канстытуцыйна-каардынацыйнай радзе (КРР), утворанай па рашэнні Кангрэса дэмакратычных сілаў.**

У гэты орган увайшлі Генадзь Карпенка, Станіслаў Багданкевіч, Мікалай Статкевіч, Андрэй Саннікаў і Міхаіл Пастухоў, якія будуць прадстаўляць Нацыянальны камітэт пры Вярхоўным Савеце, АГП, сацыял-дэмакратычную Народную грамаду, Хартыю-97 і Асамблею няўрадавых арганізацыяў. Засталося вызначыцца са сваімі кандыдатамі ў Раду толькі Беларускаму Народнаму Фронту і дэмакратычным прафсаюзам, за якімі зарэзерваваныя яшчэ два месцы. Між тым не выключана, што месца БНФ у Радзе застанецца вакантным. *«Паглядзім па выніках працы, ці ёсць сэнс у гэтай КРР. Пакуль мы і без яе добра супрацоўнічаем з дэмакратычнымі арганізацыямі і таму не бачым сэнсу ў стварэнні новай надпартыйнай структуры»*, — заявіў НАВІНАМ адзін з намеснікаў старшыні Народнага Фронту Сяргей Пацкоў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Бельгійскі кіроўца вярнуўся на радзіму

**Бельгійскі кіроўца Вілі Солье, па віне якога ўлетку 1997 года загінулі чацвёра беларускіх дзяцей, быў памілаваны рашэннем Аляксандра Лукашэнкі. У сераду Вілі Солье выйшаў з калоніі і накіраваўся на радзіму, у Бельгію.**

Нагадаем, што 1 ліпеня 1997 года двухпавярховы аўтобус *Neoplan*, у якім дзеці з «чарнобыльскага» Рэчыцкага раёна ехалі на аздараўленне ў Бельгію, перакуліўся на шашы побач з Кобрынам. У выніку катастрофы чацвёра дзяцей загінула і больш за 60 атрымалі розныя траўмы. Суд прызнаў 57-гадовага кіроўцу аўтобуса вінаватым і асудзіў яго да 8 гадоў пазбаўлення волі. В.Солье адбываў пакаранне ў 16-й калоніі-спецпасяленні ў Горках Магілёўскай вобласці, дзе ўтрымліваюцца людзі, што ўчынілі злачынствы па неасцярожнасці.

З васьмі гадоў Вілі Солі адсядзеў толькі паўтара. Агенцтва ІТАР-ТАСС паведамляе, што сам кароль Бельгіі Альберт II у асабістым лісце да Аляксандра Лукашэнкі прасіў беларускага прэзідэнта аб міласці да кіроўцы, які мае даволі паважны ўзрост. Відаць, менавіта гэтае заступніцтва паспрыяла датэрміноваму вызваленню Вілі Солье.

Як нам паведаміла адміністрацыя калоніі, дзе ўтрымліваўся Вілі Солье, у сераду за кіроўцам у калонію прыбыла дэлегацыя з бельгійскай амбасады ў Маскве (у Беларусі амбасады Бельгіі няма). Разам з імі Вілі Солье паехаў у Маскву, каб ужо адтуль вылецець на радзіму.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Тры чалавекі памерлі ад грыпу

**Эпідэмія грыпу пайшла на спад, аднак яшчэ назіраецца высокі ўзровень захворваемасці. Двое жыхароў Гродзенскай вобласці (аднаму 70, а другому 24 гады) памерлі ад грыпу, яшчэ адзін пацыент памёр, паводле папярэдняга дыягназу, ад гэтай хваробы ў Мінску.**

Усяго за час сёлетняй эпідэміі было шпіталізавана больш за 1.700 чалавек, але большая частка хворых лячылася дома. Як нам паведамілі ў Рэспубліканскім цэнтры эпідэміялогіі і гігіены, найвышэйшы паказчык захворваемасці грыпам застаецца ў Наваполацку, дзе эпідэмія пачалася ўжо даўно, 29 студзеня. Спецыялісты сцвярджаюць, што гэта звязана з неспрыяльнай экалагічнай сітуацыяй у горадзе хімікаў. Таксама высокі ўзровень захворваемасці грыпам у Гродне, Мінску і Маладзечне. Дарэчы, у Маладзечне ў мінулую пятніцу захварэла адразу 725 чалавек. Эпідэміёлагі апасаюцца, што пасля хвалі грыпу вірусу А на Беларусь можа прыйсці вірус В.

Тым часам генеральны дырэктар Сусветнай арганізацыі аховы здароўя заявіла на сустрэчы экспертаў у Жэневе, што асноўныя праблемы ў барацьбе з грыпам узнікаюць вакол стварэння і прымянення вакцыны. Па яе словах, вакцыны павінны стаць больш эфектыўнымі і ў першую чаргу імі патрэбна забяспечваць групы рызыкі. Вакцына супраць грыпу таксама павінна быць даступнай як мага больш шырокім слаям насельніцтва.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Будзе спецтэлевізар

**На віцебскім тэлезаводзе «Віцязь» распрацоўваецца новая мадэль тэлевізара «Прэзідэнт».**

Адзін з вядучых спецыялістаў завода «Віцязь» сказаў, што навінка яшчэ знаходзіцца ў стадыі эскізу. Ад папярэдніх мадэляў яна найперш будзе адрознівацца знешнім выглядам. Са слоў дызайнера, тэлевізар набудзе больш вытанчаную форму. Калі тэлевізар атрымаецца ўдалы, то прэзідэнт Лукашэнка будзе задаволены. А ў выпадку, калі мадэль не спраўдзіць спадзяванняў, можна сказаць, што названая яна была ў гонар прэзідэнта ЗША.

**В.К.**

# Як будзем галасаваць?

**Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) можа выдзеліць для Беларусі спецыяльныя машыны, пры дапамозе якіх выбаршчыкі галасуюць пальцамі.**

Падчас выбараў машына фіксуе адбіткі пальцаў, якія ў кожнага чалавека ўнікальныя і не паўтараюцца. Такім чынам кожны грамадзянін галасуе толькі адзін раз і без прад'яўлення пашпарта. З такімі машынамі можна за кароткі тэрмін аб'ехаць тэрыторыю нашай краіны, каб дапамагчы выбарчым камісіям хутка справіцца з абавязкамі. У свой час машыны для галасавання былі скарыстаны ў Босніі. Цяпер скарыстаць гэты вопыт мяркуе Вярхоўны Савет 13-га склікання падчас абвешчаных выбараў.

У мінскім прадстаўніцтве АБСЕ (кансультатыўна-нагляддальнай групе) нам не ўдалося пацвердзіць гэтую інфармацыю, бо кіраўнік групы Ханс-Георг Вік з'ехаў у Германію.

**А.Д.**

# Гномы дерутся, у Белоснежки слезы текут,

## или Кто предотвратит катастрофу в Беларуси

Хотя народу и обещана окончательная стабилизация ситуации в стране уже к октябрю месяцу, но он надеется больше на то, что, Бог даст, картошка в этом году уродится.

В этой надежде едины и сторонники Лукашенко, и его противники, и либералы-прагматики, и утонченные интеллигенты.

Еще одно общее для всех чувство — чувство растерянности. Все чувствуют себя обманутыми. Те, кто ожидал от властей порядка, никакого порядка не дождались, равно как и продовольственного изобилия, повышения зарплаты и прочих вспомоществований, объединения с Россией...

Разочарованы и те, кто не ожидал ничего хорошего в принципе, потому что и такого провала они в принципе не ждали. Хотя и предсказывали.

Думается, и власти пребывают в некоторой растерянности, поскольку им все сложнее и сложнее объяснять «простым людям», почему они должны перебиваться «бульбачкай и хлебцем», когда многие вокруг живут по-иному.

### Начиналось без царя в голове

К слову сказать, в Беларуси процесс брожения в умах затянулся. Поначалу масса не особенно обращала внимание на всякие штуки, на которые власть не скупилась. Сначала старая номенклатура занималась, по ее мнению, серьезным делом: первичным накоплением капитала, делегируя из своих рядов в публичную политику тех, кто не мог удержаться в ее рядах (по разным причинам), старательно отсекая, по ее мнению, слишком «самостийных».

При различных комбинациях политических объединений основным было выяснение того, кто больший демократ. Главным критерием — сила крика. Кто громче крикнет, тот и главный. И, как это часто и бывает, жизнь не простила беспечности. Появился амбициозный лидер, который на неокультуренном политическом поле быстро развернулся и, не имея противовесов, установил свои правила.

Но противостоящие «одному» группы были еще слабее. И политическая борьба стала представлять собой трагикомедию под названием «битва дистрофиков под диваном». Один дистрофик затоптал другого и, выглянув из-под дивана, пообещал запустить по всем ракету. Абсолютная власть, известно, развращает.

Поэтому «абсолютный властитель», не обремененный знаниями и слабо разбирающийся в социальных процессах, проморгал момент, когда деградация приобрела опасные формы и популярность его стала таять, как снег под весенним солнцем. Поэтому потребовалось обеспечить легитимность силовой поддержкой. А вскоре сама сила стала синонимом легитимности.

### Пляска святого Витта

Получается, что политиканством заниматься еще можно (другого и не остается), но политикой — уже нельзя. Развал экономики достиг критической точки. Свойственная бюрократии инерционность плавно перешла в прямой саботаж. Причем неосознанный. На



разносы ведь надо реагировать, иначе если не в тюрьму, то с сумой... Поэтому вместо профессиональных, но непопулярных действий что наверху, что внизу исполняются бесконечные ритуальные танцы, напоминающие (не к ночи будет сказано) пляску святого Витта. Понятно, что главный — он и в танцах главный.

А тем временем толпа, как и положено, обнаруживает, что позолота исчезла, что кумир какой-то «захватанный». Элита же, если это можно назвать элитой, начинает его люто ненавидеть, но в силу упомянутых и ряда других причин реально ничего сделать не может. Политические группы все еще институционально «не доофрмились», их реальный вес невысок. Ставшие в последнее время все более настойчивыми призывы к консолидации не в счет. Это не тот случай, когда количество переходит в качество.

Номенклатура, как и связанные с ней политические группы, также не имеет ни веса, ни влияния. В свою очередь администрация, сосредоточив в своих руках все внутренние материальные ресурсы, лишилась сторонников среди профессиональных групп, людей, желающих серьезно для нее работать. Поэтому стремительно теряя рычаги управления страной («вертикальщики» на местах не в счет: их страх дезориентировал полностью), она начинает метаться, все больше ужесточая позиции.

Экономическая ситуация вносит дополнительный драматизм. Все говорит о том, что счастливое время заканчивается, поскольку производство все больше замораживается, а грабить больше нечего и некого, в том числе и за счет ускоренной амортизации, практиковавшейся в последнее время. К тому же, трудно поверить, что те, кто последние четыре года «ковал» деньги, зарабатывал их для того, чтобы вложить в собственную страну. Промышленность с ее на 70% изношенным оборудованием, физически и морально устаревшая инфраструктура не дают никаких оснований для оптимизма. Ситуация в сельском хозяйстве ясна даже «аграриям». Нужны инвестиции. Их источники известны. Поди возьми. Если сможешь.

### Это больше, чем преступление, это глупость

Новая консолидация, если судить по некоторым признакам, уже началась, и с появлением новых участников процесса, плюрализацией гражданской активности, она будет укрепляться. Печально, конечно, но пройдет еще время, прежде чем у нас окончательно установится двухпартийная система с многофункциональными с хорошо интегрированными субъектами и сильными корпоративными связями.

Таким образом, сложившаяся ситуация характеризуется примерно следующими параметрами. Администрация и старая номенклатура окончательно разошлись по разные стороны баррикады в связи с нестыковкой ценностей, норм, нравов, манер, целей. Кроме того, становится все более устойчивым и необратимым общий культурный конфликт, базирующийся на утрате единства в обществе из-за нарушения социальных норм.

Общественное мнение дезориентировано, в различных социальных группах широкое распространение получило отклоняющееся поведение.

Внутренние ресурсы общества истощены (в экономике перешли критический порог) и недостаточны для принятия эффективных решений. Поэтому уверенности в плодотворности усилий по выходу из кризиса без внешних масштабных инвестиций нет.

По мере ухудшения ситуации и, как следствие, неизбежной социальной дестабилизации активность внешних контрагентов будет усиливаться, что вызовет дополнительное напряжение на политическом поле. И в том случае, если власть будет препятствовать проявлению социальной энергии, неизбежно ухудшится криминогенная обстановка, а борьба за исчезающие ресурсы обострится.

Развитие политического процесса теперь будет зависеть от того, как быстро удастся внешним контрагентам локализовать, подчинить или разгромить нынешнюю номенклатуру. Но в любом случае придется менять стратегию действий, чтобы приостановить развитие по одному из деструктивных вариантов (Югославия, Румыния и так далее), поскольку дальнейшая стагнация гуманитарного сектора приведет к переходу от кризиса к катастрофе.

Еще 2-3 месяца назад ничто не предвещало такого развития событий, но сегодня такая возможность стала сверхвероятной.

**Евгений ВЕЖНОВЕЦ, Константин СКУРАТОВИЧ**

---

ЧЫТАЦКАЯ ДУМКА

# Дзяржава пазычае ў народа

Мы беларусы — народ талерантны, народ памяркоўны. Мы можам усё зразумець, усё растлумачыць, з усім звыкнуцца. Мы жывем без сапраўднай канстытуцыі, затое маем дэкрэты і пастановы на ўсе выпадкі жыцця. Мы нічога не чулі аб правах чалавека, але маем права *«работать и когда-никогда покупать кусочак мясца деткам»*. Нашая талерантнасць і памяркоўнасць сталі для нас каменем, які прытупляе наш розум, нацыянальныя пачуцці і самасвядомасць. Што мы займелі, дык гэта надзвычайную здольнасць прыстасоўвацца да ўмоваў, якія раней здаваліся нясцерпнымі. Мы зусім не заўважылі час суверэнітэту і дэмакратыі (падарунак ад Расіі ў Белавежскай пушчы), бо так і не захацелі даведацца, што з гэтым рабіць. Далей заплюшчылі вочы на таталітарызм, які прабіваўся на таннай папулісцкай глебе, з абрыдлымі сацыялістычнымі парадкамі і з хворай любоўю да ўлады. Нам падабаецца, калі думаюць за нас. У адной з баек К.Чапэка адна авечка гаварыла: «Хоць рэзаць, толькі вядзіце». Не знаходзіце падабенства?

Вось ёсць адно практыкаванне. Давайце падлічым, колькі мы згубілі ў зарплаце за апошні год рынкавага сацыялізму. Усе, напэўна, памятаюць той час, калі сярэдняя зарплата прыблізна складала 100 USD. Рынкавы сацыялізм збіў яе да 30$. Такім чынам, у месяц кожны працуючы ў сярэднім губляў да 70$. У нашай краіне каля 4 мільёнаў працуючага насельніцтва. У маштабе рэспублікі атрымліваем: 4 млн. чал. х 12 мес. х 70$ = 3.360 млн.$ (улічваючы тое, што ў выпадку рынкавага развіцця эканомікі зарплата не павялічвалася б, а заставалася на ўзроўні 100$).

Гэтая лічба — нашая так званая ўпушчаная выгада, што з'яўляецца пунктам іскавай заявы. Каму можна прад'явіць гэты іск і хто яго мусіць задаволіць?

**Аляксандр УНГУР**

---

# Размышления обывателя

Отшумел, отгремел конгресс — очередной небольшой праздник на улице демократии. Для внешнего потребителя много сделано. А что же остается для населения на внутреннем рынке? К сожалению, приходится констатировать, что КПД проведенных мероприятий примерно соответствует паровозному. Конечно, обидно это сознавать, но что поделаешь, когда о проведенном конгрессе знают только те, кого интересует деятельность оппозиции. Те, кто и так не согласен с действиями государства, его руководства.

Если большинство населения страны живет своими повседневными интересами, то и у оппозиции они свои: И эти интересы на обозримом этапе жизни не имеют тенденций к сближению, не говоря уж об их пересечении. Только этим можно объяснить довольно низкие рейтинги лидеров оппозиции у независимых экспертов.

С большой долей вероятности можно прогнозировать консервацию данного состояния общества при условии, что оппозиция будет вести работу только для демонстрации своего наличия, работу ради самой себя.

Основная масса голосов сосредоточена в сельской местности и на небольших предприятиях, т.е. в местах голосования, управляемого руководящими структурами. Борьбу за эту часть электората можно сравнить с деятельностью миссионеров по обращению аборигенов в христианство. Они давали каждому исчерпывающие ответы на волнующие его вопросы, подсказывали пути решения проблем, нейтрализовывали духовных оппонентов, привлекали на свою сторону колеблющихся. Поэтому католических крестов нет только в Антарктиде.

Руководство страны, само того не осознавая, делает все для сокращения в обществе своей социальной базы. И если сейчас этим не воспользоваться, не развернуть работу по привлечению на свою сторону народных масс, то в итоге оппозиция получит то, что ей не может присниться в самом страшном сне — абсолютно аморфную массу нигилистов, отрицающих любые политические силы и движения.

Но самое опасное, самое страшное во всей этой мозаике действительности то, что политическая апатия населения станет гарантом существования и дальнейшей консервации нынешнего политического режима, сохранения в стране сложившейся социальной системы.

**А.КОСТИН,** *пенсионер, г.Новополоцк*

---

# Поставлен знак равенства

Немцы будут выплачивать компенсации жертвам — своим бывшим рабам. Там запрещен фашизм и не ходят с портретами Гитлера.

А когда же жертвам коммунистических репрессий, гулаговцам будут выплачивать компенсации, что-то не слышно?! Похоже, никогда — ведь они строили светлое будущее за колючей проволокой. Раз у нас ходят с портретами Сталина, а рядом портреты Лукашенко, значит, между ними можно поставить знак равенства, а как понимать власть, которая это поощряет? А что это за газета «Советская Белоруссия», разве у нас есть такая страна Советская Белоруссия? Бред какой-то! Я уже не говорю о чем там пишут! А флаг у нас — какое-то исламское знамя с добавлением красного. Вот так и живем: раз народ сам себя не уважает, то власть считает его за быдло и соответственно с ним обращается.

**В.БОЦВИН,** *г.Кобрин*

*Долгое время попытки оппозиционных политиков объединить усилия в борьбе против Лукашенко успеха не имели. Все заканчивалось на уровне бесплодных дискуссий относительно общей стратегии и тактики, после которых стороны расходились по домам при своих интересах и собственном единственно правильном мнении.*

*На мой взгляд, неудачи были обусловлены неверно избранным фундаментом объединения, а точнее, тем, что дом начинали строить не с фундамента, а с крыши. Расхождения в идеологических установках демократических партий и движений вроде бы не носят непреодолимого характера. Тем не менее они крайне редко могут договориться между собой именно по программным вопросам. Но это в общем и не является необходимым условием для совместной деятельности. Сотрудничество на практике гораздо важнее единства в теории. Конкретный политический сценарий способен объединить гораздо быстрее, нежели все координационные и консультативные органы вместе взятые, и заодно позволяет отсеять бесполезных болтунов.*

Александр СТАРИКЕВИЧ

# Партнерство ради Беларуси

Примером тому служит вполне согласованная политика в части организации президентских выборов 16 мая 1999 года, которую проводят не только близкие по духу, но и разнородные силы, как-то Белорусский Народный Фронт и команда Михаила Чигиря. Вряд ли они испытывают друг к другу уж очень большую симпатию. Но присутствует четкое осознание того факта, что успех кампании в целом и, соответственно чей-то персональный, становится возможен только в случае, если каждая из сторон добросовестно исполнит возложенные на нее функции.

При этом неизбежны шероховатости, устранение которых потребует максимум гибкости ото всех без исключения. Так, достойными сожаления выглядят бестактные заявления экс-премьера в интервью «Нашей Ниве» относительно Рады БНР. Они уже вызвали негативную реакцию в национально ориентированной среде. Однако не следует забывать, что ссора между основными действующими лицами — непозволительная роскошь, и ее следует избегать любой ценой. Поэтому для сторонников национальной идеи в сложившейся ситуации предпочтительнее воспринять происшедшее как досадное недоразумение. В свою очередь, они вправе рассчитывать, что в дальнейшем Чигирь будет более уважительно отзываться о символах белорусской государственности.

Главная задача на сегодняшний день и у БНФ, и у Чигиря, и у всех остальных патриотов Беларуси — отстоять независимость своей страны. Разногласия в вопросах строительства государства вместе с персональными амбициями пока что необходимо отложить в сторону, потому как в противном случае этого самого государства не будет вообще.

История преподала нам еще один урок на тему «Ничто не дается даром (кроме неприятностей)». В 1991 году Беларусь получила независимость не в результате упорной борьбы, а фактически благодаря стечению обстоятельств. Но восемь лет спустя счет все же предъявлен к оплате. Теперь придется приложить немало усилий, чтобы сохранить наш дом и тем самым избежать переселения в коммуналку.

Не стоит чрезмерно доверять убаюкивающим рассуждениям политологов о невозможности российско-белорусского объединения. Вероятность его высока как никогда. В Москве премьерствует заклятый интегратор Евгений Примаков, в Минске верховодит Александр Лукашенко. Эта ось способна натворить таких чудес, что разгребать придется на протяжении десятилетий, причем без всяких гарантий успеха. Тем более, что для Лукашенко создание единого государства все больше становится не средством реализации претензий на Кремль, а способом избежать ответственности за «подвиги», совершенные в Беларуси. Иными словами, не сбежишь — привлекут, пусть через год, два или пять. В любом случае Лукашенко еще достаточно молод, чтобы дожить до персонального судного дня.

Присоединение Беларуси к России — это последняя ставка шкловского авантюриста. Если Лукашенко сорвет банк, то останется в игре и даже перейдет на новый уровень. Поражение означает для него неизбежный крах. Поэтому президент постарается использовать любую, самую ничтожную, самую унизительную возможность, чтобы слиться в экстазе с Россией.

Государственность Беларуси кому-то может казаться ценностью абстрактной. Но в действительности именно от ее наличия или отсутствия зависит реализация нашего главного права — права на достойную жизнь. Объединение с Россией означает, что в будущем нас ждут все прелести, испокон веков присущие этой державе: нищета, бесправие, беспросветность.

Альтернативой является собственный путь, основанный на независимости и поддержании хороших отношений как с Востоком, так и с Западом. В этом заключается наш единственный шанс сделать свою страну богатой и свободной.

Эта цель должна стать платформой для объединения не только оппозиционеров. В государственном аппарате и бизнесе не меньше сторонников независимости, чем в любой демократической партии. В силу своего положения они не могут открыто выступать против политики президента, но это и не требуется. Многие из них способны скрытно и в то же время вполне действенно препятствовать уничтожению нашего государства.



Необходимо, чтобы общность цели объединила даже тех, кто в обычной ситуации является непримиримыми оппонентами. Такое партнерство ради Беларуси будет отвечать не только высшим, но и частным интересам. Деление на команды, кланы и группировки временно утратило смысл. Разговоры, которые сейчас ведутся в политической тусовке, о том, что кого-то выдвинули, а кого-то задвинули, бессмысленны по определению. Нас всех задвинули очень далеко. И засунут еще глубже, если не будет решена главная задача.

Поэтому не стоит думать, что, принимая участие в избирательной кампании, мы делаем одолжение Гончару, Шарецкому, Пазьняку или Чигирю. Игры политиков, в которых кто-то наберет больше очков, а кто-то меньше, неизбежны. Но не они сейчас на первом плане. Ни один политический лидер, ни даже они все вместе взятые не в состоянии провести выборы без помощи рядовых патриотов Беларуси.

Понятно, что нынешняя кампания, хоть и крайне важна, но является всего лишь этапом в борьбе за сохранение государственности Беларуси. Дело чести каждого — внести свой вклад. У нас достаточно сил, чтобы одержать победу. Одну на всех.

Эдуард КОЖАНЕЦ

# Блеклые тени в тумане выборов

Есть много людей, которые надеются на добрые перемены на Беларуси после выборов президента, назначенных Верховным Советом 13-го созыва на 16 мая. Есть не меньшее, а возможно, и большее количество электората, которые не верят, что выборы имеют шанс состояться. Во-первых, у Александра Лукашенко не такой характер, чтобы 17 мая в здравом уме и трезвом рассудке уступить некому г-ну из оппозиции свою неограниченную власть, надежды занять московский трон и добровольно удалиться в Шкловский район запускать сельское хозяйство. Во-вторых, на выборы без санкции президента не придет его часть электората. И наконец, эти выборы совершенно не нужны кремлевским братьям белорусской бюрократии, которые постараются, чтобы они не осуществились. Только разве разговоры о них нужны Москве, чтобы подталкивать Александра Григорьевича к более решительным шагам инкорпорации Беларуси в систему российских федеративных субъектов.

Тем не менее перемена личностей на титульных должностях способна изменить ход народной жизни, поскольку государство – это деятельность живых чиновников в каждое текущее мгновение. Если в кабинетах сидят малообразованные, неинтеллигентные персоны, то смена их на образованных и интеллигентных меняет, во всяком случае, культурную компоненту жизни, в которую попадает и политическая идеология.

Президент Александр Лукашенко поступил хитро, когда сам себя на каком-то собрании назвал «батькой» белорусского народа, сыграв на желании малоактивной и бесправной части населения иметь указующие перст и силу, а в контексте советского прошлого создав поле ассоциаций со Сталиным и его мертвящей рукой.

Оппозиция, то есть сторона, желающая взять бразды правления, не смогла придумать ничего лучшего, чем заняться исчислением недостатков президента, то есть персонификацией зла. Сейчас нет ни одной беды, в которой не был бы виноват А. Лукашенко. Он – «демагог», создал «диктаторский режим», забрал себе всю законодательную и конституционную власть впридачу к исполнительной, уничтожил символы и атрибуты, развалил экономику, старательно уничтожает белорусскую культуру, торгует родиной, благословлял избиения оппозиции милицейскими дубинками, обещает вырвать ноги и скрутить головы, транжирит народные деньги, играет в хоккей вместо заботы об экономике, прекратил приток инвестиций, организовал разрыв с Западом, ставит республику вне рамок цивилизованного общества и порядочных людей. И так далее. Иначе говоря, грехов столь много, что их можно породить только вместе с огромной командой чиновников (и пятой колонны). Поэтому множество людей не верит, что переход президентского штандарта от Лукашенко к иной личности рассеет мрак авторитарного режима и порожденного им кризиса, и мы увидим солнечное «утро родины». Выйдем на улицу и услышим вокруг себя звучание белорусской речи, составы с тракторами «Беларусь» с надписью «Экспорт», сытых пенсионеров, самолеты «Боинг», с которых спускаются долгожданные инвестиции на наши фабрики и заводы, кур, несущих куриные, а не воробьиные (хотя бы по размерам) яйца. И будем «людьми зваться». Главное – избавиться главного зла, которое стараниями московской Лубянки материализовалось в образе А. Лукашенко.

В этом шуме обвинений только, крайне напрягая слух, можно расслышать тихий голос сомнения: а не виноваты ль мы сами? Ведь если кто-то что-то купил, то с другой стороны кто-то что-то продал. Можно сказать, что президент взял всю власть, но можно признаться, что отдали власть. Можно сказать, как пишут некоторые любомудры, что Шарецкмй и Тихиня были обречены подписать договор с Лукашенко в присутствии московского высокопоставленного десанта (Черномырдин, Селезнев, Строев). Но следует спросить: кем были обречены? Может, Черномырдин держал Шарецкого и Тихиню в душегубке и пускал туда российский газ? Или полковники Шейман и Заметалин загоняли стальные скрепки под ногти Председателю Конституционного суда Республики Беларусь. Оба вернулись с той ночной посиделки без синяков и кровоподтеков. Только что с пятном на совести. За предательство всех сторонников Верховного Совета. Как продали, почему, за какие коврижки – тайна. Господин Шарецкий по сей день не объяснился. Подписи поставили – то есть капитулировали, сдали своих людей, выручили Лукашенко. Уж как-то и неловко слушать после этого из уст Шарецкого про «режим диктатуры, который угрожает фашизмом». Если и угрожает, то чьей подписью благословлен? И сам спикер Верховного Совета как подписант капитуляции превратился в политическую единицу такой величины, что нужен микроскоп для ее обнаружения.

Трудно согласиться и с тем, что Лукашенко «задавил» свободные профсоюзы. Если рабочие вместо того, чтобы колоннами идти на протест, несутся сажать картошку или плачутся жене на плохого директора, то никакой профсоюз не отстоит их интересы. Если рабочие не защищают своих товарищей, выброшенных указом с работы, то нет в мире профсоюза, способного научить их сочувствию и пониманию своих классовых интересов — интересов эксплуатируемых властью производителей. Власть ничего не производит, она функционирует или на почве закона, или на поприще его попрания. Если в Италии выходят на забастовку миллионы людей, а у нас — десятки единиц, то кто сможет защитить столь безразличных к себе и своим семьям индивидов? Стоит посмотреть в зеркало и ответить себе честно: не президент умен, мы — глупы. Он — злой, но мы — запуганы. Он тянет в Союз, но мы в огромной массе безразличны к своей Родине Беларуси, на которой дорожим только своим собственным успехом. И более ничем.

Но если такое множество людей способно проходить политические университеты, читая знаки нищеты в пустых холодильниках и кастрюлях, то мало смысла говорить о чем-либо ином, кроме покупательной способности и стоимости их труда. Но именно об этом немного и говорится. Высокопоставленные фигуры оппозиции старательно обходят эту тему, как невыигрышную. Люди не знают экономической программы имениты противников режима, точнее, созидательной части такой программы. Критики в адрес «первого батьки», его министров, вертикальщиков, как говорится, пруд пруди, но внятного, доступного объяснения, откуда возьмутся у народа деньги и благополучие, в какие сроки, с чьей зарубежной или заокеанской помощью — большой оппозиционный секрет. Так что неудивительно, что деятелей демократической оппозиции наш белорусский демос за деятелей признает, за своих лидеров — нет. Правда, за последний месяц А.Лукашенко заметно зашатался на своем пьедестале удачливого продавца Материродины. Не надо впадать в ошибку — стук падения в ближайшее время никто не услышит. Но по сравнению с ним, все деятели оппозиции, которые собираются, хотят или мечтают выставиться кандидатами в президенты на весенних выборах, пока выглядят, как бледные подвальные тени. Которых народ и рассмотреть не может (и уже не хочет рассматривать), потому что бродят в тумане, говорят туманные слова и намекают о своей святой миссии в деле спасения Беларуси, если все партии и весь народ сомкнутся возле них и поддержат их личное миссионерство. А персонально таких спасителей человек пять. И никто друг другу путь наверх не соступает.

КАНФЕСІІ

# Атэістаў меншае, праваслаўных большае

Адно з незабыўных уражанняў пачатку 90-х гадоў звязанае для мяне з амерыканскім неграм. Гэта быў узорны галівудскі негр — рослы, белазубы, добразычлівы, энергічны. Ён стаяў на выхадзе са станцыі метро «Няміга» і адорваў кожнага блакітным буклетам. Атрымаўшы буклет, я ўбачыў, што гэта выданне місіянерскай хрысціянскай місіі, якое абвяшчала мне (зразумела, на рускай мове) пра неабходнасць веры ў Збавіцеля, небяспеку трапіць у пекла і да т. п. Стаячы на тым месцы, дзе некалі былі мінскі дзядзінец і першая мінская царква, дзе хрышчэнне праходзіла сама меней восем стагоддзяў таму, калі продкі гэтага шчырага місіянера скакалі каля вогнішчаў у нетрах Афрыкі, я дастойна ацаніў камічнасць сітуацыі. Нашы замежныя добразычліўцы ставіліся да нас як да язычнікаў, што не ведаюць само імя Хрыста, і прыляцелі з другога краю свету ратаваць беларускія душы. Самая пікантнае ў дэсанце пратэстантаў была іхняя няўвага на існуючыя на Беларусі цэрквы — каталіцкую і праваслаўную, якія, відаць, здаваліся новым місіянерам насмерць забітымі былым камуністычным рэжымам.

Але на ніве хрысціянізацыі беларусаў яны адразу адчулі моцную канкурэнцыю, а неўзабаве і моцны супраціў Беларускага экзархата, падтрыманага сваёй маскоўскай патрыярхіяй, а таксама клопатам рэспубліканскага ўрада. На Вялікдзень 1994 года тагачасны прэм'ер і кандыдат на прэзідэнта Вячаслаў Кебіч стаяў каля мітрапаліта Філарэта і шматкроць паўтараў «Госпади, помилуй мя!» Калі электарат пасадзіў у прэзідэнцкае крэсла «праваслаўнага атэіста» Аляксандра Лукашэнку і Беларускі экзархат здолеў загладзіць непаразуменні сваёй памылковай падтрымкі ўсенародна нелюбімага В. Кебіча, праваслаўная царква на Беларусі атрымала тое, на што раней толькі спадзявалася — дзяржаўную падтрымку рэлігійнай ідэалогіі.

Першы прэзідэнт Беларусі, арыентаваны на Маскву і адраджэнне імперыі, прыняў вывераную гісторыяй формулу «самадзяржаўе і праваслаўе». Паколькі царква на Беларусі знаходзіцца ў юрысдыкцыі маскоўскай патрыярхіі, дык былі пачутыя скаргі патрыярха Алексія на экспансію каталіцкай царквы «на заходніх межах», а пратэстанцкім місіянерам была пакінута такая плошча для агітацыі і прапаганды, якая неабходная, каб адмесці папрокі ў неталерантнасці дзяржавы. Беларускі праваслаўны экзархат атрымаў, па сутнасці, статус дзяржаўнай царквы на Беларусі, на які працавалі і дзяржаўныя СМІ, і ўсе ідэалагічныя чыноўныя службы.

Праваслаўныя цэрквы і капліцы пачалі расці ў нас, як той казаў, як грыбы, у адрозненне ад каталіцкіх і кальвіністцкіх, да якіх наша дзяржава ставіцца без прыхільнасці (магчыма, таму, што маюць свае цэнтры за мяжой, у краінах, якія ўваходзяць у ЕС і НАТО). Абвешчаны «саюз славянскіх дзяржаваў», у якім у рэлігійных адносінах валадарыць маскоўская патрыярхія, надаў пашырэнню праваслаўя на Беларусі моцны штуршок. Таму лёгка зразумець, чаму наша дзяржава клапоціцца пра масавае засваенне народам абрадаў праваслаўнай канфесіі маскоўскага ўзору.

З гэтае прычыны цікава азнаёміцца з вынікамі даследавання «Рэлігія і грамадства», якое праводзіў Цэнтр сацыялагічных і палітычных даследаванняў БГУ увосень мінулага года (апрошана 1.024 рэспандэнты ў 55 геаграфічных пунктах Беларусі). Уласна кажучы, падборка рэспандэнтаў выглядае малапрадстаўнічай, бо на пытанне «Ці адносіце вы сябе да якой-небудзь рэлігійнай канфесіі» выявілася поўная адсутнасць спавядаючых іудзейства і іслам, чаго, відавочна, не можа быць, бо не ўсе яўрэі і не ўсе беларускія татары пакінулі Беларусь, пра што сведчаць зусім не пустыя мячэці і сінагогі. Таму названыя 66% праваслаўных вернікаў Беларусі прыходзіцца браць на веру (ці пад сумніў), хоць гэта значна менш, чым абвешчаныя некаторымі выданнямі 80% праваслаўных беларусаў (магчыма, не выкананы план). Каталікамі назваліся 10% рэспандэнтаў, што адпавядае афіцыйным лічбам «палякаў» на Беларусі і падкрэслівае міжвольна ці наўмысна «польскасць» беларускага каталіцызму.

Найбольш цікава, што 13% апытаных прызналіся ў сваіх атэістычных перакананнях (паказальна, што «чортаў тузін»). Шкада, што публікацыя не дае звестак пра ўзрост атэістаў — ці гэта старыя кадры, выхаваныя пры савецкай уладзе, ці моладзь, якая асэнсоўвае, каму лепш давяраць — царкве ці свайму ўласнаму розуму. Нарэшце, 31,9% прызналі сябе агностыкамі — гэта значыць людзьмі, якія не бяруцца судзіць аб тым, чаго ніхто не ведае. Паколькі я таксама лічу сябе агностыкам, дык задаволены такой значнай колькасцю аднадумцаў.

З ліку рэспандэнтаў 8% не вераць у Бога, але вераць у звышнатуральныя сілы (магчыма, не без уплыву серыяла «Горац»). Аднак, у чатыры разы болей людзей на Беларусі (31,9%) вераць у жыццё пасля смерці. Не вераць у жыццё на тым свеце 33%, а сумняваюцца, што такое магчыма, 36% (і правільна, бо без практыкі тэорыю не праверыш). У варажбу ды іншыя прымхі вераць 51, 9% нашых суайчыннікаў. Сур'ёзнае пытанне аб рэлігійных пачуццях у анкетах сфармулявана, на мой погляд, спрошчана: «Ці патрэбна рэлігія?» Станоўча адказалі пра патрэбу рэлігіі 72% рэспандэнтаў. Дарэчы, паказальна, што з тых, хто лічыць рэлігію патрэбнай, 56% упэўненыя, што яна спрыяе маральнаму паляпшэнню чалавека. Адпаведна заклапочанасці пра маральнасць 66% апытаных беларусаў лічаць, што дзецям неабходна даваць рэлігійнае выхаванне. З гэтай колькасці 21% жадалі б бачыць рэлігію абавязковым прадметам у пачатковай і сярэдняй школе, аднак болей людзей — прыхільнікі рэлігійнага выхавання ў нядзельных школах (40%). Пра тое ж, варта нагадаць, даўно мараць святары і нашае міністэрства адукацыі.

Пэўную перамогу канфармізму дэманструюць адказы на пытанне, чаму адпраўляюцца рэлігійныя абрады. Як і павінна быць, 40% выконваюць абрады «па традыцыі, так прынята». Царкоўная ўрачыстасць прываблівае 16% рэспандэнтаў, «душэўная патрэба» — 44%, «па перакананнях» — 28%. Праўда, чым розняцца «перакананні» ад «душэўнай патрэбы», зразумець няпроста. Даволі горка знаць, што 9% ходзяць у царкву і выконваюць абрады «з-за адзіноты». Не былі б адзінокія — не хадзілі б. Але «знаходзіць душэўную раўнавагу ў пераадоленні жыццёвых цяжкасцяў» царква дапамагае толькі 27%. Значна больш тут дзейсныя любімая справа (28%), сябры (34%), сям'я (64%). Праца здольная даць душэўную раўнавагу толькі 22% рэспандэнтаў (што і зразумела пры нестабільнасці і малых заробках).

Публікацыю даследавання завяршае карціна адносінаў да спектра рэлігійных канфесіяў, якая дэманструе безумоўную перавагу сярод апытаных праваслаўя і адначасова ўражвае шырокай непісменнасцю ў адносінах да іншых веравызнанняў. Так, да праваслаўя станоўча ставяцца 87%, адмоўна — 1%. Да баптызму станоўча паставіліся 9%, адмоўна — 24%, нічога не ведаюць пра баптызм 28%. Нічога не ведаюць пра уніяцтва 51%, пра іудзейства — 40 %, пра дзэнбудызм — 49%, пра адвентызм — 63%, пра іслам — 35%. Аб праваслаўі нічога не ведаюць 2% (відаць, рэспандэнты былі жартаўнікамі). Настроі рэспандэнтаў здольныя супакоіць тых прыхільнікаў праваслаўя, якія баяцца пратэстанцкага пранікнення на тэрыторыю РБ. Ідэі не могуць аваладаць масамі, якія пра гэтыя ідэі нічога не ведаюць. Таксама вынікі даследавання могуць задаволіць тых прыхільнікаў маскоўскай патрыярхіі, якія ўпэўненыя, што толькі рускае праваслаўе «истинное» і здольнае ўтрымаць свабоду сумлення беларусаў у межах рэлігійнай юрысдыкцыі маскоўскай патрыярхіі.

**Міхал МАТУШ**

*Па матэрыялах сацыялагічнай службы БелаПАНа, «Зеркало», студзень 1999*

**Юры ХАДЫКА**

*(Працяг. Пачатак у №№ 20, 21)*

# Нацыянальная ідэя як працэс

Цяжкасці нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў таксама маюць працяглую гісторыю. 17 стагоддзе — час амаль няспынных спусташальных войнаў з агрэсарамі з поўдня, поўначы і ўсходу — стала стагоддзем паступовага акаталічвання беларускага набілітэту. Ва ўмовах талерантнасці і пашырэння культурнага ўплыву з Захаду ў галіне адукацыі і гаспадаркі гэта не было само па сабе небяспечным, калі б напрыканцы стагоддзя ён не набыў характару апалячвання. Пазбаўленне беларускай мовы статуса дзяржаўнай у 1696 г. паспрыяла шырокаму пранікненню польскай культуры ў шляхецкія асяродкі і ў беларускія гарады. Паміж беларускай элітай і беларускім народам паўстаў трагічны бар'ер, які захоўваецца да сённяшняга дня. Гэта — моўны бар'ер. Па нацыянальнай самасвядомасці быў нанесены цяжкі ўдар.

К моманту падзелаў Рэчы Паспалітай беларуская шляхта адчувала сябе патрыётамі краіны — Літвы, а не беларусамі. Царская палітыка русіфікацыі Беларусі, якая ажыццяўлялася брутальнымі сілавымі метадамі, толькі паспрыяла апалячванню беларускай эліты. Выхаваная на ідэалах рэспубліканскага ладу, яна проста не магла ўспрыняць манархічныя, рабскія традыцыі расійскай культуры. Таму паступова губляе нават літоўскі патрыятызм, замяняючы яго польскім, які толькі ўзмацняецца ў выніку крывавых распраў з удзельнікамі вызвольных паўстанняў.

Забарона Уніі ў 1839 г. павялічыла колькасць беларускіх «палякаў», бо частка уніятаў, ратуючыся ад маскоўскага гвалту, аддае перавагу каталіцызму перад расійскім праваслаўем. Дабіваючы беларускую нацыю, царскі ўрад закрывае Віленскі універсітэт і ліквідуе нацыянальную сістэму адукацыі. Да канца 19 ст. беларуская нацыя ўжо не існуе. Існуе толькі беларускі народ. Таму сутнасцю нацыянальнай ідэі беларусаў, падобна як у чэхаў, славакаў, балгараў ды іншых паняволеных народаў, становіцца нацыянальна-культурнае Адраджэнне, стварэнне нацыянальнай эліты і заваёва незалежнай дзяржаўнасці.

У выніку першай сусветнай вайны і бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расіі беларускі народ здолеў стварыць сваю дзяржаву. Але вырвацца з абдымкаў апошняй імперыі не ўдалося. Палітыка русіфікацыі, хай і пад новымі лозунгамі, працягвалася. Яна спалучала як гвалтоўныя метады, так і метад культурнай экспансіі. Зноў галоўнаю перашкодаю стала беларуская мова і беларуская гісторыя. Таму былі фізічна знішчаныя людзі, што ажыццяўлялі палітыку беларусізацыі ў 20-х гадах. Таму беларуская гісторыя была скажоная да непазнавальнасці, і ў савецкія часы было лепш звяртацца да працаў расійскіх гісторыкаў 19 ст. Яны хлусілі меней.

Камуністы ўсё ж мусілі ствараць беларускую эліту. Зрусіфікаваную, рускамоўную, пазбаўленую гістарычнай памяці, «тутэйшых». Гэтая эліта і стала галоўнай перашкодаю на шляху другога беларускага Адраджэння. Разам з вялікай доляй зрусіфікаванага насельніцтва.

Да шырокага распаўсюджання расійскай мовы прычыніліся не столькі перавага расійскай культуры над беларускай, як гэта сцвярджаюць сённяшнія «западна-русы», а палітыка «жалезнай заслоны» — ізаляцыі ад сусветнай культуры, падаўлення натуральнага развіцця беларускай мовы. Даволі цяжка чалавеку, які выхаваны на «Казцы пра цара Салтана», «Залатым пеўніку», «Казцы пра папа і работніка яго балду», зразумець, што геніяльны Адам Міцкевіч не горшы паэт, чым Аляксандр Пушкін. Ужо таму, што ён паэт свабоды, што ён апяваў гісторыю твайго народу і прыгажосць твайго краю. Тым болей, што большасць аматараў расійскай культуры проста не чытала А.Міцкевіча з-за практычнай адсутнасці яго беларускіх перакладаў.

Таму беларуская нацыянальная ідэя — гэта не толькі форма і змест, але і працэс. Працэс заваёвы і ўмацавання незалежнай дзяржаўнасці, засваенне элітай нацыянальна-культурнай спадчыны, прапаганда яе каштоўнасцяў, як нормаў і стэрэатыпаў сацыяльных паводзінаў, якія адны толькі ў стане разняволіць творчы патэнцыял народа, дазволіць яму дасягнуць годнага жыцця як у матэрыяльных, так і ў духоўных адносінах. Толькі душэўная гармонія, самапавага, упэўненасць у сваіх сілах, адчуванне адзінства здольныя надаць грамадству сілы, неабходныя для пераадолення крызісу ва ўсіх сферах жыцця, натхніць на цяжкую працу па пабудове заможнай дынамічнай краіны, для якой не будуць зачыненыя дзверы ў Еўрапейскую супольнасць. І, наогул, у будучыню.

Палітыка ж і прапаганда існуючага рэжыму скіраваныя проста ў супрацьлеглым накірунку. Крапатліва і настойліва рэжым настройвае адну частку народа супраць другой. Праваслаўных супраць каталікоў. Іх абодвух супраць пратэстантаў. Беларускамоўных супраць рускамоўных. Ветэранаў супраць моладзі. Прыхільнікаў рэформаў супраць прыхільнікаў «аднаўлення разарваных сувязяў». Адначасна імкнучыся інтэгравацца ў краіну, дзе кожны трэці ніколі не быў і не хоча быць «рускім». Гэта не толькі неканструктыўна і памылкова. Гэта — злачынная і цынічная палітыка, якая пагражае самому існаванню беларусаў. Таму беларуская нацыянальная ідэя яшчэ і зброя ў барацьбе з дыктатарскім антынародным рэжымам. Шлях да аднаўлення законнасці і правапарадку. Як любая ідэя, яна належыць кожнаму, хто яе разумее.

**Гартаючы толькі што выдадзены сёмы том Беларускай энцыклапедыі, аматар гісторыі не праміне затрымацца на артыкуле пра першага рускага цара Івана IV, вядомага таксама як Грозны, або Жахлівы. Сын вялікага князя маскоўскага Васіля III і княгіні Алены Васілеўны Глінскай пакінуў у нашай гісторыі глыбокі крывавы след. Якраз таму ў савецкія часы беларускім школьнікам і студэнтам — нібыта дзеля ўмацавання непарушнай дружбы беларускага і рускага народаў — і не рэкамендавалася ведаць пра гэтую гістарычную асобу ўсёй праўды.**

# «Муж чюдного рассуждения»

Яшчэ і сёння каля сценаў святой Сафіі ў маім родным горадзе ад экскурсавода можна часам пачуць ледзьве не заміляваныя словы пра тое, як цар Іван Грозны *«освобождал Полоцк от литовских феодалов»*. Нескладана набыць у кнігарнях і перавыдадзены ў наш час у Беларусі бестселер сталінскіх часоў — раман расійскага аўтара В.Костылева «Іван Грозны», у якім цар-бацюхна кладзецца спаць і ўстае з адным-адзіным нязбытным клопатам — *«как истреблять врагов России»*.

Аўтар энцыклапедычнай нататкі, які пажадаў застацца невядомым, наўрад ці ставіў перад сабой мэту запоўніць лакуны нашай гістарычнай памяці. Захопніцкую знешнюю палітыку тагачаснай Масковіі, у якой выкарыстоўвалася тактыка выпаленай зямлі, энцыклапедыя далікатна называе *«курсам на пашырэнне межаў дзяржавы»*. Паведамляецца, што цар фізічна знішчаў сваіх праціўнікаў, але затое *«быў адукаваным для свайго часу чалавекам»*, у пацверджанне чаго згадваюцца, у прыватнасці, ягоныя лісты да англійскай каралевы Лізаветы I і шведскага караля Юхана III.

Праблеме дачыненняў Івана IV з радзімаю нашых продкаў у энцыклапедыі прысвечаны тры з паловаю радкі, у якіх сказана, быццам скрозь зубы: *«Вёў Лівонскую вайну, у 1562 годзе на чале 80-тысячнага войска ўступіў у межы ВКЛ, што прывяло да вялікіх разбурэнняў і чалавечых ахвяраў на тэрыторыі Беларусі»*. Усё. Кропка. Дапытлівы юнак не задаволіцца трыма радкамі. Таму гісторык павінен дапамагаць невядомаму калегу-«энцыклапедысту».

1558 год. Маскоўскае войска ўварвалася ў Інфлянты (Лівонію). Шукаючы падтрымкі, лівонскі магістр прызнаў сябе васалам Вялікага Княства Літоўскага. Беларускія палкі гетмана Радзівіла Рудога рушылі на дапамогу лівонцам.

Царскія ваяводы павялі сваіх стральцоў на Беларусь. Князь Андрэй Курбскі, які яшчэ служыў Івану, хадзіў на Віцебск. *«Острог взяли и пожгли,* — апавядае маскоўскі летапісец, — *и посады у города у Витебска все пожгли и народ в остроге поимали и людей в остроге многих побили и села и деревни около Витебска пожгли и повоевали»*. Перабегшы ў Вялікае Княства Літоўскае, Андрэй Курбскі напіша Івану IV, што той *«затворил землю русскую, сиречь, свободное естество человеческое, аки в адовой твердыне»*. А тады, у Віцебску, апрача касцёлаў, Курбскі спаліў і дваццаць чатыры праваслаўныя храмы.

Захопніцкія планы, як заўсёды, прыкрываліся абяцаннямі вызвалення адзінаверцаў. Якім жа быў наш *«вызваліцель ад літоўскіх феадалаў»* у сапраўднасці? Каб не здавацца занадта старонным, дам слова славутым расійскім гісторыкам. М.Кастамараў называў Івана IV *«чудовищем, которое лжет в каждом слове»*. В.Ключэўскі — *«зверем от рождения»*, а С.Салаўёў пісаў, што гісторык ніколі не прамовіць такому чалавеку слова апраўдання.

У дзяцінстве цар любіў бавіцца, скідваючы з высокіх дахаў катоў і здзекуючыся з дробнай жывёлы. Гадоў з пятнаццаці пачаў «упускаць» з вышыні таварышаў сваіх дзіцячых гульняў і з асалодаю глядзеў, як тыя канаюць. Калі цару прывезлі з Персіі слана, ён закамандаваў таму стаць перад памазаннікам Божым на калені. Няшчасная жывёліна, не ведаючы рускай мовы, не паслухалася і была за гэта пасечана на кавалкі. Цар катаваў колішніх сяброў, уласнаручна зарэзаў у застоліцы князя Абаленскага-Аўчыніна, абарваў жыццё свайго сына... У часы так званай апрычніны царовы слугі цэлы месяц забівалі ў Ноўгарадзе штодня па 500 чалавек. А маскоўскі летапісец выводзіў на пергамене пра свайго ўладара: *«Муж чюдного рассуждения, в науке книжного поучения доволен»*.

Крывавая тыранія напоўніла краіну даносчыкамі і катамі. Рэкі крыві, войны і захопы чужых земляў успрымаліся падданымі як доказы богаабранасці Івана IV.

Рускі нацыянальны характар атрымаў у тыя часы наймацнейшую прышчэпку манархізму і вялікадзяржаўнасці. Менавіта гэты цар пакінуў Расіі ў спадчыну ўжо цалкам сфармаванае самаўладдзе, што трымалася на тэроры супраць народа. (Нядзіва, што Іванам Грозным захапляўся Сталін.)

Напрыканцы студзеня 1563 г. царскія палкі спыніліся на дзвінскіх берагах. Наперадзе ляжаў найбагацейшы горад Вялікага Княства і яго галоўная цвярдыня — з 9-вежавым замкам, з 12 манастырамі і 18 храмамі.

14 лютага Грозны загадаў біць па горадзе з вогненных гарматаў, і за пяць гадзін да світання полацкая фартэца загарэлася. Пасля сёмага варожага прыступу ваявода Давойна і епіскап Арсеній выйшлі з замка і папрасілі літасці. Полацкая шляхта і пяцьсот «каронных рыцараў» адмовіліся здавацца і адбіваліся яшчэ некалькі дзён, аднак лёс горада быў вырашаны.

Цар дакляраваў, што захавае кожнаму палачаніну волю і маёмасць. Ваявода Давойна, быццам забыўшыся, чаго вартае ў Масковіі дзяржаўнае слова, выступіў з замка з усім войскам і артылерыяй і стаў на вызначанае месца.

Пасмяяўшыся з веры ў ягоныя абяцанкі, цар Іван акружыў палонных моцнай аховаю і загадаў пяць дзён не даваць ім есці. Мірных гараджанаў выгналі ў поле і таксама ўзялі пад варту. Абяцаную волю атрымалі польскія рыцары. Яны мусілі паведаміць вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту, што маскоўскі валадар вайны не прагне, а хоча адно вярнуць «свае» Валынь, Галічыну і Беларусь да самае Вільні. Удзельнік вайны італьянец Аляксандр Гваньіні, які быў віцебскім камендантам, у сваёй «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі» паведамляе, што маскоўскі цар вывеў з Полацка пяцьдзесят тысяч палонных. Польскі гісторык Мацей Стрыйкоўскі дадае, што гнаў іх не пахрысціянску, а *«як іудзеяў да Вавілона»*. Людзей амаль не кармілі, і яны сотнямі паміралі на зімовых дарогах.

Мала каму з палонянікаў лёсіла вярнуцца дадому. Тых, хто не застаўся ў сумётах, развезлі па розных гарадах і памесцях. 665 палачанаў па царовым наказе зарэзалі ў вязніцах. А вось яшчэ адзін трагічны чалавечы шлях, пачаты ў горадзе над Дзвіною. У аддзеле рукапісаў Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбургу захоўваецца «Псалтыр» другой паловы XVI стагоддзя, дзе можна прачытаць: *«Написана сия книга рукою многогрешного и недостойного раба божего Ивана полоняника полоцкого в заключении и во двоих путах связанного на Волоку Ламском»*.

У горадзе жыло нямала іудзеяў. Ім, ад старых да немаўлятаў, выпала страшная доля — загінуць пад лёдам Дзвіны і Валовай азярыны. Пскоўскі летапіс апавядае: *«Каторыя были в городе люди жидове, и князь великий велел их с семьями в воду в речную вметати и утопили их»*. Такі самы лёс напаткаў каталікоў. Полацкая трагедыя прымусіла здрыгануцца ўсю Еўропу, у розных краінах якой з'явіліся *«лятучыя лісткі»* з паведамленнямі пра зверствы маскоўскага тырана і ягоных галавярэзаў.

Каб вынішчыць памяць палачанаў пра сваю дзяржаву і колішнія вольнасці, царскія слугі палілі ці вывозілі на ўсход старажытныя граматы. (Можа, якраз тады мы і страцілі неацэнны Полацкі летапіс?)

*Зверствы маскавітаў у Інфлянцкай (Лівонскай) вайне.*
*Гравюра 1561 года з выдадзенага ў Нюрнбергу «лятучага ліста».*

На сумленні аўтара энцыклапедычнай нататкі застаюцца і яго доказы высокай адукаванасці Івана IV. У згаданых пасланнях да еўрапейскіх манархаў маскоўскі цар абвяшчаў сябе найвышэйшым з усіх каранаваных валадароў. Звяртаючыся да англійскай каралевы, ён называў яе *«пошлою девицей»*, а ў свайго суседа караля шведаў Юхана, бацька якога быў простым дваранінам, *«тонкі дыпламат»* пагардліва дапытваўся ў лісце: *«А ты скажи, отец твой Густав, чей сын, и с какими государями был в братстве, и какого ты рода государьского?»*

Полацк быў вернуты вялікім князем і каралём Стэфанам Баторыем толькі праз шаснаццаць гадоў. За гэты час горад і ваколіцы настолькі абязлюдзелі, што на адбудову ўмацаванняў бралі сялянаў з-пад Магілёва. З часоў царскага вызвалення Полацка ад саміх палачанаў у гісторыі горада, які перад вайной, як сведчаць хронікі, *«колькасцю і дабрабытам сваіх жыхароў пераўзыходзіў самую Вільню»*, яшчэ здараліся ўзлёты, але вярнуць сабе былога багацця і велічы ён ужо ніколі не змог.

**Уладзімір АРЛОЎ**

# Даты і лёсы

## 26 лютага

**1569.** Мястэчкі Дзісна і Радашковічы атрымалі Магдэбургскае права.

**1244.** Па загаду князя Гераніма Радзівіла ў Крычаве былі пакараныя смерцю найбольш актыўныя ўдзельнікі сялянскага паўстання (сямёра з іх былі пасаджаныя на калы).

**1848.** 29-гадовы Карл Маркс апублікаваў у Лондане «Маніфест Камуністычнай партыі».

**1861.** Памёр выбітны ўкраінскі паэт і мастак Тарас Шаўчэнка.

**1932.** Выйшаў першы нумар газеты «Літаратура і мастацтва» (напачатку — орган Федэрацыі суполак савецкіх пісьменнікаў БССР).

**1939.** Былі расстраляныя былы кіраўнік камсамола Станіслаў Касіор і крывавы намеснік Сталіна на Украіне Павел Постышаў.

**1967.** У выніку катастрафічнага лійня і апоўзня Рыо-дэ-Жанейра застаўся без электрычнасці. Шмат бізнесоўцаў загінулі ад сардэчнага прыступу на бясконцых лесвіцах хмарачосаў, бо адключыліся ліфты і кандыцыянеры. Агульная лічба ахвяраў дасягнула 259 чалавек.

**1979.** Брытанскі суд вызваліў з-пад варты з прычыны кепскага здароўя мастака Тома Кітынга, які праславіўся падробкамі карцін старых майстроў. Пазней Кітынг стаў вядучым тэлеперадачаў па мастацтве і зрабіўся зоркай брытанскага экрана.

## 27 лютага

**274.** Нарадзіўся Канстанцін Вялікі — першы рымскі імператар, які прыняў хрысціянства. У тыя часы Рымская імперыя падзялялася на шэсць частак, кожная з сваім імператарам на чале. Канстанціну ўдалося ўз'яднаць дзяржаву і ўраўнаць хрысціянаў з язычнікамі ў грамадзянскіх правах.

**1879.** Амерыканскія хімікі Канстанцін Фальберг і Айра Пемсан вынайшлі сахарын.

**1904.** Нарадзіўся выбітны фізік, адзін з бацькоў савецкай ядзернай зброі Юлій Харытон. Больш за 45 гадоў ён узначальваў КБ ядзерных узбраенняў Арзамас-16.

**1919.** У Мінску пачаўся першы з'езд беларускіх пажарных.

**1919.** На сумесным паседжанні ЦВК БССР і ЦВК ЛССР была абвешчаная Літоўска-Беларуская ССР са сталіцай у Вільні.

**1937.** Па справе «праватрацкісцкага блока» былі арыштаваны былы старшыня ўрада СССР Аляксей Рыкаў. Пасля паўгода катавання ў НКУС Рыкаў, Бухарын ды іншыя абвінавачаныя далі згоду выступіць на адкрытым судовым працэсе з прызнаннем віны, аднак на судзе ў Доме Саюзаў пачалі гаварыць пра тое, як былі атрыманыя прызнанні. Ім далі выказацца, а потым адвезлі ў вязніцу і зноў пачалі катаваць: гэта была толькі рэпетыцыя суда. Каб канчаткова зламаць волю старых бальшавікоў, спатрэбілася некалькі такіх рэпетыцыяў. Усе яны былі рэабілітаваныя ў 1988 г.

## 28 лютага

**1824.** Нарадзіўся легендарны французскі эквілібрыст Шарль Бландэн. Некалькі разоў па тонкім дроце ён праходзіў над Ніягарскім вадаспадам, у тым ліку — з завязанымі вачыма, з пасажырам на спіне і на дайгаступах.

**1932.** Каля Шэрбура ў Францыі мора выкінула на бераг шкілет дыназаўра.

**1933.** Гітлер выдаў дэкрэт пра скасаванне артыкулаў канстытуцыі, якія гарантавалі свабоду асобы, друку, слова, сходаў і аб'яднанняў.

**1947.** Шум храпа канадца Марка Хебарда, які нарадзіўся ў гэты дзень, дасягае 90 дэцыбел. Небарака мае праблемы з суседзямі, бо закон абмяжоўвае ўзровень шуму нават гарадскога транспарту 80 дэцыбеламі.

**1975.** На канцавой станцыі лонданскага метрапалітэна Мургейт цягнік не здолеў спыніцца і ўрэзаўся ў сцяну. Загінуў 41 чалавек, 50 былі паранены.

## 1 сакавіка

***Пачатак новага года па дарэформенным (да Юлія Цэзара) рымскім календары. У гэты дзень адзначалі Новы год і праваслаўныя народы да 1492 г.***

**1569.** Жыгімонт II Аўгуст падпісаў Універсал аб адарванні Кіеўшчыны, Валыні і Беласточчыны ад ВКЛ і далучэнні іх да Польшчы. Акупацыя рэшты краіны войскамі Івана Жахлівага перашкодзіла магнатам княства абвесціць вайну Кароне.

**1869.** Дзмітрый Мендзялееў прысніў пасля абеду перыядычную табліцу хімічных элементаў. На падставе яе Мендзялееў выправіў атамныя масы 7 элементаў і дакладна прадказаў адкрыццё 5 новых.

**1904.** Нарадзіўся выбітны амерыканскі джазмэн, аўтар «Серанады сонечнай даліны» Глен Мілер. Пасля продажу больш за мільён кружэлак *Chattanooga Choo Choo* быў узнагароджаны першым у гісторыі Залатым дыскам (1942).

**1920.** Белачэхі перадалі Чырвонай Арміі каля Іркуцка залаты запас Расійскай імперыі — 18 вагонаў золата на 409 млн. рублёў.

**1930.** Савецкі ўрад прыняў пастанову пра ліквідацыю ўсіх межаў паміж сялянскімі надзеламі і зліццё іх у адзіны зямельны масіў калгаса.

**1941.** У амерыканскім горадзе Нэшвіль пачало вяшчанне першае камерцыйнае радыё на хвалях *FM*.

**1990.** З рацыёну ваенных маракоў Новай Зеландыі быў выключаны штодзённы келіх рому за дзяржаўны кошт. Гэтая краіна апошняй у свеце скасавала выдачу дзяржаўнага рому.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

